# Свабодны Салігорск

незалежная газэта Салігорска

Выдаецца з верасьня 2006 г. пры інфармацыйнай падтрымцы Салігорскаг Маладога Фронта ды сайта saligorsk.org

## Пачынаюць дзейнічаць санкцыі Эўразьвязу



Сёньня ўступае ў сілу рашэньне аб пазбаўленьні Беларусі прэфэрэнцыяў у гандлі з Эўразьвязам. Яно было прынятае яшчэ летась у сьнежні паводле ініцыятывы Міжнароднай арганізацыі працы ў сувязі з парушэньнямі правоў беларускіх працоўных. Як адаб'ецца гэтае рашэньне на эканоміцы краіны?

15 чэрвеня Брусэль пацьвердзіў леташняе рашэньне. Паводле афіцыйнага тлумачэньня, Беларусь не зьмяніла стаўленьня да правоў прафсаюзаў у пытаньні свабоды аб'яднаньняў. Між тым, як зазначана ў дакумэнце Эўракамісіі, гэта неад'емная частка гандлёвай палітыкі Эўразьвязу. Скасаваньне прэфэрэнцыяў, як лічаць у Брусэлі, закране 10 працэнтаў беларускага экспарту. Ільготная палітыка Эўразьвязу распаўсюджвалася, напрыклад, на такія беларускія тавары як мінэральныя ўгнаеньні, лес, тэкстыль, адзеньне. З гэтага вынікае, што санкцыі закрануць, у прыватнасьці, лёгкую прамысловасьць.

У канцэрне "Беллегпрам" пра гэта ведаюць й прагназуюць эканамічныя страты. Памочнік кіраўніка канцэрну Натальля Дырман: "Будуць, вядома. Але ня вялізныя – не 50, ня 30, ня 40 працэнтаў. На тое, што мы экспартуем у Эўразьвяз, і будуць паднятыя мыты. Пераважна ў Эўразьвяз ідзе прадукцыя швейнай прамысловасьці, тканіна. У нас вялікіх страт ня будзе".

Старонка 2

### Уначы зьмяняецца парадак набору тэлефонных нумароў

23 чэрвеня 2007 года ўводзіцца новы код Салігорска і Салігорскага раёна — 8 0174. Парадак набору нумароў будзе наступным: міжгародныя званкі — 8 0174 2ххххх, міжнародныя званкі — +375 174 2ххххх. Акрамя таго, у гэты ж час у Салігорску і Салігорскім раёне ажыцьцявіцца пераход на шасьцізнакавую нумарацыю: да старых пяцізнакавых нумароў напярэдзе дадасца лічба «2» (2ххххх).

Старонка 3

### Вуліца Васіля Быкава ў Салігорску да гэтуль не зьявілася

19 чэрвеня– дзень нараджэньня Васіля Быкава – пісьменьніка, чые кнігі пра другую сусьветную вайну застаюцца ўзорам праўды ў літаратуры. Нашага сучасьніка, аднаго зь лідэраў беларускага адраджэньня і незалежнасьці, чалавека, якога называлі сумленьнем нацыі, якога да канца ненавідзелі і баяліся ўлады, і любілі і будуць любіць сотні тысяч прыхільнікаў яго таленту.

Старонка 2

### Рэйд па КДБ і пракуратуры

Пасьля мяккага прысуду пецярым «маладафронтаўцам», адкрытымі застаюцца яшчэ дзьве справы па 193-ім артыкуле КК «Дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі». Яны распачатыя супраць непаўналетняга Івана Шылы з Салігорску і 18-ці гадовага Яраслава Грышчэні з Баранавічаў. Абодва хлопцы — вулічныя байцы. У моладзевы супраціў прыйшлі адносна нядаўна, але пасьпелі стаць сапраўднымі лідэрамі.

Старонка 3

### 16-га ў Салігорску патрабавалі вызваліць маладафронтаўцаў




Чарговы Дзень Салідарнасьці адбыўся 16-га ў Салігорску. Гэтым разам удзельнікі акцыі патрабавалі вызваліць маладафронтуўцаў. У руках яны трымалі партрэты Зьмітра Дашкевіча (які ўжо дарэчы адбвў палову свайго турэмнага тэрміну), свечы і ліхтары, зь якіх складаўся заклік "Свабоду Маладафронтаўцам".

Як звычайна акцыя адбылася а 20-й гадзіне на цэнтральнай плошчы горада ў прысутнасьці вялікай колькасьці супрацоўнікаў міліцыі. Праз 15 хвілін удзельнікі пакінулі плошчу.

Старонка 3

### «Беларуськалій» працягвае сыпацца

20-га чэрвеня ў адным з цэхаў РУП «Беларуськалій» па папярэдніх дадзеных адбылося абвальваньне 100 кв.м даху. Абыйшлося без ахвяр у адрозьненьне ад лютаўскага надзвычайнага становішча, калі ў выніку абвалу ў шахце, трагічна загінуў шахтар. Гэтую інфармацыю пацьвердзіў у тэлефоннай гутарцы прэс-сакратар МНС Беларусі Віталь Навіцкі. Па яго словах, тэхналягічны працэс на прадпрыемстве таксама не быў парушаны.

Навіцкі паведаміў, што кіраўніцтва «Беларуськалія» за дапамогай у МНС не зьвярталася. Разам з тым ён адзначыў, што ўсе падрабязнасьці здарэньня яму невядомыя, і параіў зьвярнуцца за дэталямі здарэньня ў канцэрн «Белнафтахім».

Гэта ня першае здарэньне на прадпрыемтсве. Цягам гэтага году загінула 2 чалавекі.

### Хопіць чакаць!Дзейнічай!



Сотні ўлётак з такім лёзунгам зьявіліся ў Салігорску сёньня ноччу. Гэтак сама як і сотні выяваў нацыянальнага сымбаля "Пагоні" і графіці, з патрабаваньнем вызваліць палітычных зьняволеных.Апошнімі днямі немагчыма не заўважыць падвышэньне актыўнасьці Салігорскага Маладога Фронту. Некалькі дзёрзкіх начных вылазак-і як вынік, па ўсім горадзе заклікі вызваліць палітычных зьняволеных, сотні выяваў нацыянальнага сымбаля "Пагоні". Сёньня ноччу ўвесь цэнтар гораду быў аблепляны вялікімі ўлёткамі з лёзунгам "Хопіць чакаць! Дзейнічай!".Негледзячы на крымінальны перасьлед, допыты й затрыманьні, салігорскія маладафронтаўцы працягваюць непахісна ладзіць пасьпяховыя акцыі пратэсту і інфармацыйныя кампаніі.

Старонка 3

# Пачынаюць дзейнічаць санкцыі Эўразьвязу

**(працяг , пачатак на старонке 1)**

Магілёўскае прадпрыемства "Магатэкс", якое выпускае тканіну, карысталася прэфэрэнцыямі Эўразьвязу. Сярод спажыўцоў яго прадукцыі – такія краіны як Польшча, Літва, Італія, Чэхія. Аднак "Магатэкс" пастаўляе на эўрапейскі рынак усяго каля трох працэнтаў свайго экспарту. Таму, як паведаміў намесьнік камэрцыйнага дырэктара **Аляксандр Шамрай**, вялікай бяды ад санкцыяў Эўразьвязу яны не чакаюць:

*"У нас няма разьвітага гандлю з Заходняй Эўропай, каб гэта так тычылася. У нас асноўны гандаль – Расея, Украіна. Нешта будзе, але ўсё гэта можна замяніць, дывэрсіфікаваць. Пакуль пастаўкі ў Заходнюю Эўропу маюць характар прэстыжу, а не аб'ёмнай працы".*

Паводле інфармацыі Эўракамісіі, мыта для беларускіх тавараў павялічыцца на 3 працэнты. Якія страты ў цэлым панясе беларуская эканоміка, прагнозы экспэртаў розьняцца. Напрыклад, эканаміст недзяржаўнага Інстытуту прыватызацыі й мэнэджмэнту **Алена Ракава,** мяркуе:

*"Я магу сказаць, што страхі пра вялікія страты Беларусі моцна перабольшаныя. Я зьяўляюся прыхільнікам тых разьлікаў, што Беларусь страціць максымум 30 мільёнаў даляраў. То бок, гэта небясьпечна хутчэй не з эканамічнага, а палітычнага пункту гледжаньня як прэцэдэнт. Сёньня выключылі з адной сыстэмы – заўтра могуць быць прынятыя і іншыя рашэньні".*

А вось як ацэньвае наступствы для Беларусі ад рашэньня Эўразьвязу кіраўнік навукова-дасьледчага цэнтру Мізэса **Яраслаў Раманчук**:

*"Прынцыпова гаворка ідзе, можа, пра 100 мільёнаў даляраў, калі мы гаворым пра прамыя кошты. Усё будзе залежаць ад таго, ці будуць захаваныя давальніцкія схемы з сыравінай і перапрацоўкай. Калі сёньня, то гэта так.*

*Але вось назаўтра, праз два гады, мы можам страціць цэлыя галіны, цэлыя прадпрыемствы. Калі б гэта не было так балюча, то беларускія ўлады не рабілі б столькі шуму й крыку вакол гэтага пытаньня".*

***Паводле Радыё Свабода***

# САЛІГОРСКІМ УЛАДАМ АНТЭНЫ НЕ ЗАМІНАЮЦЬ... ПАКУЛЬ

На пытаньне салігорца аб ліквідацыі спадарожнікавых антэнаў адказвае галоўны архітэктар Салігорскага раёна **С. Ф. Круглова**.

*"Ці праўда, што ў горадзе будуць прыбіраць спадарожнікавыя антэны? Калі так, то зь якой нагоды і ці магчыма іх усё ж такі пакінуць?"* З такім пытаньнем да мясцовых уладаў зьвярнуўся ў рубрыцы "Гарачы тэлефон" газэты ШАХТАР салігорац **Андрэй Мітуневіч**. На яго пытаньне адказвае **С. Ф. Круглова**:

*- У пляне мерапрыемстваў па добраўпарадкаваньню і навядзеньню парадка да 50-годзьдзя горада Салігорска дэмантаж спадарожнікавых антэнаў не прадугледжаны. Як вядома, незалежныя сродкі інфармацыі цягам некалькіх апошніх месяцаў пужаюць беларусаў "талеркавай вайной" з нагоды зьяўленьня ўвосень незалежнага спадарожнікавага тэлеканала для Беларусі. Што праўда, дзяржаўныя СМІ ня надта гэтую інфармацыю і абвяргаюць. Адно толькі хлусяць, што ўсё робіцца дзеля саміх жа людзей і спасылаюцца на старадаўнія нядзеяздольныя законы і пастановы.*

З вышэйзгаданай натацы ў газэце ШАХЦЁР становіцца відавочным, што салігорскім уладам да гэтае вайны ані якай справы няма. За камэнтарам дадзенай заявы мы зьвярнуліся да прадстаўніка салігорскіх дэмакратычных сілаў **Аляксея Валабуева**.

*- Згодны, што пакуль у Салігорску спадарожнікавыя антэны зьнімаць не зьбіраецца. Але ж відавочна і тое, што гэтае рашэньне прымаецца не на ўзроўні мясцовых уладаў. Пакуль што такога загаду "з цэнтру" ня было. Аднак у любы час ён можа быць дадзены і тады ні якія заявы спадарыні Кругловай ня будуць граць ані якай ролі. Таму ўладальнікам сатэлітавых антэнаў я бы пажадаў заставацца пільнымі і сачыць за далейшым разьвіцьцём падзей. Думаю, што бліжэй да восені ўсё пачне растлумачывацца. Да таго ж трэба ўлічваць вялікія пратэстныя настроі салігорцаў. Жыхары гораду, ня гледзячы на здавалася б станоўчыя спробы мясцовых уладаў добраўпарадкаваць горад, вельмі не задаволеныя дзеяньнямі апошніх. Дакладней не задаволеныя рэпрэсіўнымі сродкамі, з дапамогай якіх мясцовыя ўлады спрабуюць здабыць міласьці ад вышэйшага кіраўніцтва.*

**Прэс-служба МФ**

# Вуліца Васіля Быкава ў Салігорску да гэтуль не зьявілася



**19 чэрвеня – дзень нараджэньня Васіля Быкава** – пісьменьніка, чые кнігі пра другую сусьветную вайну застаюцца ўзорам праўды ў літаратуры. Нашага сучасьніка, аднаго зь лідэраў беларускага адраджэньня і незалежнасьці, чалавека, якога называлі сумленьнем нацыі, якога да канца ненавідзелі і баяліся ўлады, і любілі і будуць любіць сотні тысяч прыхільнікаў яго таленту.

Ва ўсёй Беларусі імем Васіля Быкава названа адна-адзіная вуліца – у пасёлку Ждановічы Менскага раёну. Ні на радзіме пісьменьніка ў Вушачах, ні ў Горадні, дзе Быкаў пражыў 24 гады, ні ў сталіцы вуліц імя Васіля Быкава дагэтуль няма, паведамляе «Радыё Свабода».

Што да музэяў, у Бычках, у роднай хаце намаганьнямі грамадзкасьці створаны музэй. Ёсьць яшчэ адзін невялічкі музэй з аднаго пакойчыка ў Горадні, які створаны зь ініцыятывы гарадзенскіх вэтэранаў вайны, працы і ўзброеных сілаў.

Грамадзкая ініцыятыва «Воля народу» пры ўдзеле Саюзу беларускіх пісьменьнікаў чатыры гады таму выступіла зь ініцыятывай выдаць поўны 14-томны збор твораў Быкава. Каардынатарам некамэрцыйнага праекту стаў тады Аляксандар Казулін. Увесь наклад -- 3 тысячы асобнікаў -- пойдзе ў бібліятэкі. Пакуль у Расеі выдадзена 6 тамоў. Але выдаўцы перакананыя, што здолеюць выдаць і ўсё заплянаванае.

Што да дзяржаўных выданьняў, то яшчэ пры жыцьці Васіля Быкава выдавецтва "Мастацкая літаратура" заплянавала выдаць васьмітомнік. Два тамы, цалкам падрыхтаваныя да друку, былі нават зьвярстаныя. Потым сытуацыя зьмянілася. Пасьля зьняважлівых выказваньняў на адрас Быкава кіраўніка дзяржавы, стаўленьне ў чыноўнікаў ад літаратуры да ўсясьветна прызнанага клясыка памянялася. З плянаў выдавецтва Быкава выкрасьлілі.

P.S. Два гады таму салігорская моладзь сабрала калая трохсот подпісаў пад зваротам за зьяўленьне ў горадзе вуліцы імя Васіля Быкава. Подпісы былі накіраваныя ў мясцовы Савет Дэпутатаў. Дэпутаты адказалі, што пры зьяўленьні ў горадзе новых вуліц гэтая прапанова будзе ўлічана. Аднак да гэтага часу вуліцы імя Васіля Быкава ў Салігорску так і не зьявілася.

**Паводле Хартыі 97**

# Шахтар саступіў Віцебску 1:2

Адбыліся 6 матчаў 11-га тура першынства краіны. Салігорскі шахтар саступіў Віцебску — 1:2. Галы: Арцём Ганчарык, 6-пэнальці; Зьміцер Рубнянко, 24, Яўген Зуеў, 53). Астатнія матчы: Нафтан (Наваполацк) — Тарпэда (Жодзіна) — 1:1. Дарыда (Менскі раён) — Нёман (Гародня) — 0:1. Гомель — Дынама (Брэст) — 4:1. МТЗ-РИПО — Смаргонь — 2:2. Днепр (Магілёў) — Менск — 0:0 У чацьвер мінуе заключны паядынак тура, у якім менскае «Дынама» прымет барысаўскі БАТЭ.

## Рэйд па КДБ і пракуратуры

Пасьля мяккага прысуду пецярым «маладафронтаўцам», адкрытымі застаюцца яшчэ дзьве справы па 193-ім артыкуле КК «Дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі». Яны распачатыя супраць непаўналетняга Івана Шылы з Салігорску і 18-гадовага Яраслава Грышчэні з Баранавічаў.
Абодва хлопцы — вулічныя байцы.
У моладзевы супраціў прыйшлі адносна нядаўна, але пасьпелі стаць сапраўднымі лідэрамі. Менавіта яны вядуць наперад калёны дэманстрантаў на розных акцыях апазыцыі.
У іхных гарадах пра хлопцаў чулі, напэўна, усе міліцыянты, бо лік затрыманьняў ужо даўно пайшоў на дзясяткі.
Ні Іван, ні Яраслаў расслабіцца праваахоўнікам не даюць. Чаго толькі вартыя акцыі з вывешваньнем бел-чырвона-белага сьцягу на будынак баранавіцкага гарвыканкаму ці салігорская галадоўка пратэсту, пасьля якой старшыня салігорскага гарвыканкаму абяцаў пасадзіць Івана Шылу ў клетку.
Яраслаў да нядаўняга часу працаваў арт-дырэктарам менскага клюбу «Сымпл», але пільныя сталічныя ідэолягі празь некаторы час пазбавілі клюб ліцэнзіі. Іван вучыцца ў школе, у дзясятай клясе.
Зь пералічанага вышэй становіцца абсалютна зразумела, чаму менавіта на гэтых хлопцаў завялі крымінальныя справы.
Карэспандэнт «НН» пабываў у Салігорску і Баранавічах разам з групай палітыкаў, праваабаронцаў, журналістаў. Салігорск — адзін з наймаладзейшых гарадоў Беларусі. Налета яму споўніцца толькі 50 гадоў.
Увесь горад у налепках і графіці. Нейкі пэнсіянэр, убачыўшы Івана Шылу, пачынае лаяцца: «Калі яшчэ раз намалюеш на сьцяне такое, то буду выклікаць міліцыю». Сталы чалавек паказвае на вялікую Пагоню, што намаляваная на гаражы недалёка ад дому Шылаў.
У салігорскай пракуратуры паразмаўляць па справе Івана Шылы згадзіўся намесьнік пракурора Віктар Палхоўскі. Ён увесь час нешта запісваў і абяцаў разабрацца. Сказаў, што ня ведае пра выпадкі, калі непаўналетніх актывістаў у горадзе забіраюць на допыты проста са школьных партаў. На спробы нешта распытаць у пракурора, ён шматзначна паказваў асадкай некуды ўверх. Ці то намякаў, што яго праслухоўваюць, ці то паказваў, што Бог усё бачыць.
За пару крокаў ад пракуратуры Салігорску знаходзіцца і мясцовы КДБ. Звонім у дзьверы, якія адчыняе нейкая запалоханая дзяўчынка. Пытаемся, ці можна паразмаўляць з начальнікам. Дзяўчына адказвае, што не, бо нікога няма на месцы. Пасьля зачыняе дзьверы. Працягваем званіць далей.
На гэты раз з-за дзьвярэй паказваецца малады прыемны з выгляду мужчына. Прадстаўляецца кіроўцам.
Іван Шыла адразу пазнае, што гэты чалавек некалькі дзён таму рабіўператрус у яго на кватэры. Пытаемся: у КДБператрусы ладзяць ужо кіроўцы? Станоўча махае галавой. Увогуле, гэбіст абраў як сродак зносінаў з намі іронію. На ўсе пытаньні проста станоўча ківаў галавой і ўсьміхаўся, нібыта кажучы: «чаго вы ад мяне хочаце?». У будынак ён нас і не пусьціў. Пратрымаў на ганку.
Пасьля таго як стаміўся ад нашай кампаніі, проста бразнуў дзьвярыма і сышоў.
На прыкладзе Баранавічаў яшчэ раз пераконваемся ў культуры людзей з Заходняй Беларусі. У адрозьненьне ад Салігорску нават у КДБ з намі ахвотна згаджаюцца паразмаўляць. Адказны дзяжурны Сяргей Фісюк паведаміў, што нікога з начальства няма, але ён згодны прыняць гасьцей замест іх. Праходзім ў «Пакой для наведвальнікаў». Інтэр'ер тыповы для падобнай установы — стол, два крэслы, голыя сьцены. Дзівімся аскетызму нашчадкаў жалезнага Фэлікса.
Фісюк адразу кажа, што КДБ да справы Грышчэні ня мае ніякага дачыненьня. Таму мы прыйшлі не па адрасе. Напрыканцы размовы гэбіст прызнаецца, што ўвогуле ня ведае, хто такі Грышчэня. Штопраўда, вяртаючыся ў Менск дазнаёмся, што ў гэты самы час у будынку КДБ праходзіў допыт Яраслава. Цікавіліся, што ён рабіў на судзе над «Маладым фронтам». Хлопец кажа, што нават бачыў нас праз вакно, але ня мог ніяк клікнуць.
Пракурор Баранавічаў Аляксандар Смаль таксама не адмовіўся ад кантакту з намі. Ён пацьвердзіў, што справа на Грышчэню сапраўды заведзеная, але сказаць штонебудзь новае адмовіўся з прычыны тайны сьледства. Смаль паведаміў, што матэрыялы справы будуць разглядацца два месяцы, пасьля чаго яе альбо перададуць у суд, альбо спыняць, альбо працягнуць на пэўны тэрмін. Калі сілавыя структуры спрабуюць гэтымі крымінальнымі справамі запалохаць хлопцаў, каб яны адмовіліся ад актыўнай апазыцыйнай дзейнасьці, то ў іх гэта слаба атрымліваецца. На мінулым тыдні ў Салігорску зьявіліся новыя расьцяжкі. Грышчэня ж правёў дзесяць дзён у Горадні, абараняючы яе гістарычныя помнікі. **Зьміцер Панкавец, Салігорск—Баранавічы—Менск**

## Уначы зьмяняецца парадак набору тэлефонных нумароў

23 чэрвеня 2007 года ўводзіцца новы код Салігорска і Салігорскага раёна — **8 0174**. Парадак набору нумароў будзе наступным: міжгародныя званкі — 8 0174 2ххххх, міжнародныя званкі — **+375 174 2ххххх**. Акрамя таго, у гэты ж час у Салігорску і Салігорскім раёне ажыцьцявіцца пераход на шасьцізнакавую нумарацыю: да старых пяцізнакавых нумароў наперадзе дадасца лічба **«2» (2ххххх).**
Новы тэлефонны код Салігорска і Салігорскага раёна, а таксама коды гарадоў Беларусі і іншых краін сьвету даступныя па тэлефоне бясплатнай кругласутачнай даведкава-інфармацыйнай службы «Белтэлекам» аб міжгародных і міжнародных кодах **153**. Для інфармаваньня абанэнтаў ня менш за 2 месяцы будзе працаваць аўтаінфарматар, які паведаміць правільны парадак набору нумароў.

**Паводле onliner.by**

## У МІЛІЦЫЮ ЗА МАЛЮНКІ НА АСФАЛЬЦЕ

Учора 19 чэрвеня супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманыя маладафронтавец Зьміцер Карноў і сябра АГП Уладзімір Лемеш.
Салігорскія маладзёны вырашылі выказаць свае пачуцьці да Беларусі і Міру з дапамогай каляровых крэйдаў на асфальце ў цэнтры горада. Гэтае дзеяньне прывабіла міліцыянтаў, што праходзілі міма. Убачыўшы малюнак бел-чырвона-белага сьцяга супрацоўнікі і затрымалі вышэйзгаданых хлопцаў, прынамсі, цалкам супрацьпраўна. Карнова і Лемеша даставілі ў міліцэйскі пастарунак, дзе ў іх узялі тулмачэньні, хоць тулмачэньні павінны былі б даць супрацоўнікі міліцыі, якія супрацьпраўна затрымалі маладзёнаў. Праз паў гадзіны юнакоў вызвалілі.

**Паводле saligorsk.org**

## 16-га ў Салігорску патрабавалі вызваліць маладафронтаўцаў

**(Працяг , пачатак на старонке 1)**

Дарэчы непасрэдна перад акцыяй міліцыянты прыгразілі аднаму з маладфаронтаўцаў Івану Шыла, што калі акцыя зацягнецца хаця б на хвіліну больш, то гэта будзе лічыцца не санкцыяваным дзеяньнем і ўсе ўдзельнікі акцыі будуць жорска разагнаныя. Цікавым падаецца той факт, што нават на гэтыя 15 хвілін салідарнасьці з семьямі зьніклых палітыкаў і беларускімі палітвязьнямі ніхто прынцыпова ніколі не прасіў і прасіць не зьбіраецца не якіх санкцый у прыступнага рэжыму.



## Хопіць чакаць!Дзейнічай!

Сотні ўлётак з такім лёзунгам зьявіліся ў Салігорску сёньня ноччу. Гэтак сама як і сотні выяваў нацыянальнага сымбаля "Пагоні" і графіці, з патрабаваньнем вызваліць палітычных зьняволеных.
Апошнімі днямі немагчыма не заўважыць падвышэньне актыўнасьці Салігорскага Маладога Фронту.Некалькі дзёрзкіх начных вылазак-і як вынік, па ўсім горадзе заклікі вызваліць палітычных зьняволеных, сотні выяваў нацыянальнага сымбаля "Пагоні".
Сёньня ноччу ўвесь цэнтар гораду быў аблепляны вялікімі ўлёткамі з лёзунгам "Хопіць чакаць!Дзейнічай!".
Негледзячы на крымінальны перасьлед, допыты й затрыманьні, салігорскія маладафронтаўцы працягваюць непахісна ладзіць пасьпяховыя акцыі пратэсту і інфармацыйныя кампаніі. **"Хопіць чакаць!Дзейнічай"**-чарговая інфармацыйна-мабілізацыйная кампаніі, галоўнай мэтай якой ёсьць узварушыць горад,актывізаваць моладзь.
"Сёньняшнія графіці ды ўлёткі-толькі пачатак.Плянуецца яшчэ шэраг мерапрыемстваў.
Таксама улетку мы плянуем правесьці конкурсм алюнкаў, футбольныя спаборніцтвы і разгарнуць новы лякальны асьветніцкі праект."- сьцярджаюць юнакі з Маладога Фронту.






**Прэс-служба МФ , фота saligorsk.org**

## У Салігорску зьявіўся BMW-клюб

*«Калі для вас BMW нешта большае чым проста сродак перамяшчэньня, калі вы любіце і шануеце аўтамабілі BMW, калі вы жадаеце прыняць удзел у стварэньні клюба, то запрашаем вас у BMW-клюб. Запрашаюцца абсалютна ўсё жадаючыя. Усё роўна якога вы полу, веку, сацыяльнага статуту, матэрыяльнага становішча і якога года ваш BMW, мэта клюба - аб'яднаць людзей якія неабыякавыя да аўтамабіляў маркі BMW для зносін, абмену досьледам, сумеснага правядзеньня вольнага часу, узаемадапамогі".*
З такім заклікам зьвярнуліся ініцыятары стварэньня клюбу да жыхароў Салігорску. Скантактавацца з арганізатарамі можна праз нумары: **+375292783088**, **+375293172574**, **+375293409524**.
"Для чаго патрэбен Клюб? У першую чаргу ўдзельнікі чакаюць аддачы ад удзелу ў Клубе.
Што гэта можа быць? У першую чаргу - узаемадапамога,абмен досьледам, абмен запчасткамі, правядзеньне мерапрыемстваў невялікага маштабу і многае іншае.
Гэта, так сказаць, самае відавочнае і можа існаваць і ў нефармальным выглядзе, без усякага Клюба. Што ж яшчэ? Вельмі шматлікае. Але для гэтага неабходная афіцыйная арганізацыя і рэгістрацыя Клюбу. У гэтым выпадку можна праводзіць мерапрыемствы, цікавыя не толькі малой часткі грамадзян, мелых аўтамабіль BMW.
Рэгістрацыя дае магчымасьць афіцыйна ўдзельнічаць у мерапрыемствах BMW Club Europa e.V., каляндар якіх вельмі і вельмі насычаны.
У выніку правядзеньня мерапрыемстваў ажыцьцяўляецца галоўная мэта, якая закладзеная ў існаваньні Клюбаў маркі BMW - папулярызацыя маркі і прынцыпаў BMW", - паведамляе адзін са стваральнікаў клюбу Сяргей. У будучыні арганізатары прапануюць арганізацыю сустрэч з дружалюбнымі Клюбамі суседзяў, з парадам, з прыцягненьнем гледачоў і прэсы, арганізацыю спаборніцтваў па вадзіцельскім майстэрстве, конкурсаў (да прыкладу - па лепшым цюнінгу або размалёўцы аўто), калектыўны ўдзел у мерапрыемствах, праводзімых Клюбамі суседніх краін, аўтапрабегі і вандроўкі.
рэгістрацыя ў BMW Club Europa e.V. і ўдзел у яго мерапрыемствах.

**Паводле esoligorsdk.net**

## Салігорскі "Шахтар" выйграў у ерэванскага "Арарата"

З перамогі пачалі футбалісты салігорскага "Шахтара" выступ у розыгрышы Кубка Інтэртота.
23 чэрвеня на сваім полі падапечныя Юрыя Вяргейчыка з рахункам 4:1 выйгралі ў ерэванскага "Арарата" у першым матчы першага круга.
Мячы забілі Аляксей Рыас (на 22-й хвіліне), Максым Гукайла (58), Аляксандар Кліменка (69) і Сяргей Нікіфарэнка (81) - у "Шахтара", Маркас Пізьзэлі (41) - у "Арарата". Адказная сустрэча адбудзецца 1 ліпеня ў Ерэване. Пераможца пары ў другім крузе згуляе з адэскім "Чарнаморцам".




**Паводле akavita.by , фот а fcshakhter.by**

## ЗАТРЫМАНЬНІ Ў САЛІГОРСКУ

Ноччу з суботы на нядзелю салігорскія міліцыянты затрымалі ў горадзе маладафронтаўца Яўгена Мядзьведзева і лідэра Салігорсага Маладога Фронту Івана Шылу. Хлапцоў абвінавацілі ў напісаньні графіці.
Па падазрэньні ў напісаньні заклікаў вызваліць з турмаў палітычных зьняволеных маладафронтаўцаў пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку некалькі гадзінаў, пасьля чаго вызвалілі. Разьбіральніцтва мусіць аднавіцца зранку. Мы будзем сачыць за далейшым разьвіцьцём падзеяў.

**Прэс-служба Салігорскага МФ**

## БТ працягвае хлусіць і правакаваць

*"У чатырох актывістаў радыкальнай беларускай апазыцыі, якія навучаюцца ў Польшчы, на мытні выключаныя два наўтбука з электроннымі дапаможнікамі па тэрарызьме"*, - паведаміў Першы канал. Па дадзеных тэлеканала, ва ўтоеных файлах, выяўленых у ноўтбуку аднаго з затрыманых, нахадзілася электронная энцыкляпэдыя мін і выбухоўнікаў, "Настольная кніга тэрарыста", матэрыялы па правядзеньні тэрактаў, а таксама кніга "100 спосабаў самагубства".

Як паведамляе "Інтэрфакс", па факце выяўленьня электронных дапаможнікаў па тэрарызьме на беларуска-польскай мяжы былі затрыманыя прэс-сакратар апазыцыйнай незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" Барыс Гарэцкі, актывіст Гарадзенскагай філіі МФ і двое чальцоў Партыі БНФ.

Як паведамляў раней Тэлеграф, у стаўленьні актывістаў "Маладога фронту" раней ужо узбуджаліся крымінальныя справы па артыкуле "дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі".

**Паводле mfront.net**

## Якія перавагі дае грамадзянам Эўразьвяз?

У краінах ЭЗ пражываюць 493 мільёна чалавек. Аб тым, якую выгаду ім дае чалецтва іх краіны ў Эўразязе, распавядае "Нямецкая хваля".

Пачаць, мусіць, варта з таго, што ўсе лічаць чымсьці самім сабой разумеючымся: у Эўрапейскім Зьвязе вось ужо паўстагодзьдзя пануе мір. Уваходныя ў ЭЗ краіны не вядуць паміж сабой узброеных канфліктаў. І гэтае немалое дасягненьне для густанаселенага эўрапейскага кантынэнта, у гісторыі якога было больш за досыць кровапраліцьцяў.

Сёньня, уступаючы ў Эўразьвяз, краіны кантынэнта абавязваюцца выконваць прынцыпы волі і дэмакратыі, паважаць правы чалавека і нормы прававой дзяржавы. У ЭЗ няма канстытуцыі, але прынцыпы мірнага і гарманічнага суіснаваньня дзейнічаюць ужо зараз. Грамадзяне любой краіны Эўразьвяза маюць на тэрыторыі ўсяго ЭЗ права, якіх за межамі Зьвяза ў іх няма.

Так, у прыватнасьці, грамадзянін адной з краін Эўразьвяза можа пасяліцца ў любой іншай краіне, уваходнай у ЭЗ, адчыніць тамака банкаўскі рахунак, знайсьці працу, паступіць на вучобу або дажываць сваё жыцьцё пасьля сыходу на пэнсыю.

Карыстацца паслугамі і купляць тавары для сваіх патрэб грамадзянін Эўразьвяза таксама можа амаль без абмежаваньняў на ўсёй тэрыторыі ЭЗ.



Асабліва падчас паездак па краінах Эўразьвяза грамадзяне ЭЗ усьвядамляюць, што яны не толькі італьянцы, латышы або ірляндцы. У шматлікіх эўрапейскіх краінах на мяжы не правяраюць пашпартоў, калі наогул гэтыя межы можна ўбачыць, пераяжджаючы на машыне з Нямеччыны, скажам, у Галяндыю або на цягніку з Бэльгіі ў Францыю.

Страхавы поліс, набыты ў краіне пражываньня, дзейнічае і за яе межамі. Плаціць хоць у Партугаліі, хоць у Фінляндыі можна адной валютай. Эўра ўвялі ў сябе ўжо 13 краін ЭЗ. Адзіныя стандарты на ўсёй тэрыторыі Эўрапейскага Зьвязу дзейнічаюць у шматлікіх іншых сфэрах.Напрыклад, у тэлекамунікацыі. Некалі, у поры манаполіі "Тэлекома" жыхары Нямеччыны ня мелі магчымасьці выбіраць тэлефонную кампанію.

З 1998 года кожны можа вырашаць сам, паслугамі якога апэратару сувязі карыстацца.

Сотавы тэлефон зь нямецкім нумарам спраўна працуе хоць у Італіі, хоць на Канарскіх астоках, пры гэтым кошты на роўмінг паніжаныя з лета цяперашняга года.

У ЭЗ дзейнічае цэлы шэраг дырэктыў, накіраваных на абарону правоў спажыўцоў.

Адмянілі рэйс самалёта – пасажыр атрымлівае кампэнсаваньне. Іншы прыклад: генэтычна мадыфікаваныя прадукты сілкаваньня павінны быць адпаведна абазначаныя.

Эўрапейскі Зьвяз працягвае ўмацоўваць і свой унутраны рынак, дапамагаючы слабым рэгіёнам, інвэстуючы грошы ў разьвіцьцё іх інфраструктуры.

Ад будаўніцтва новых дарог і аэрапортаў выйграваюць усе жыхары ЭЗ.

Але калі яны чымсьці незадаволеныя, то яны маюць права падаваць скаргі на Эўразьвяз.

Пэтыцыі прымае адмысловая камісія Эўрапейскага парлямэнта.

**Паводле charter97.org**

## Фальшывыя мільёны "разьехаліся" па ўсёй краіне

Супрацоўнікі Салігорскага АБЭЗ сумесна з калегамі зь Любані затрымалі групу фальшываманэтчыкаў. Двое салігорсцаў пракалоліся, калі спрабавалі ў Любанскім раёне адплаціцца за тавар падробленай дзесяцітысячнай купюрай. Прадаўшчыца сельскай крамы апынулася вірлавокай.

Распазнаўшы падробку, патэлефанавала ў міліцыю, паведаміла нумар машыны. Зламысьнікаў атрымалася дагнаць. На ходу яны выкінулі 39 падробленых купюр. Як апынулася, фальшывыя грошы аддрукаваныя на звычайнай офіснай паперы, пры дапамозе кампутара і капежна-струменевай друкаркі. Яшчэ дваіх фальшываманэтчыкаў затрымалі ў Любані. Тыя выраблялі ўжо 20-тысячныя купюры, а збывалі іх у Салігорску

. Менавіта дзейнасьць любанцаў і паслужыла пачаткам апэратыўна-вышуковых мерапрыемстваў. тысячных купюр з аднолькавымі нумарамі.

Затрыманы мікрааўтобус злачынцаў падаў супрацоўнікам праваахоўных органаў важкія доказы: злавілі тых, каго трэба. Пры затрыманьні з машыны вынялі 38 мільёнаў фальшывых беларускіх рублёў, вялікая колькасьць лістоў фармату А4 з надрукаванымі купюрамі.

Вядзецца далейшае расьсьледваньне. Высьвятляецца, колькі падробак і ў якіх населеных пунктах збыта. Выяўленыя ілжэкупюры паслужылі падставай для ўзбуджэньея крымінальных спраў у Койданаве, Жлобіне.

Па заяве намесьніка начальніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю Ўладзіміра Панасюка, усе гэтыя справы будуць аб'яднаныя ў адну. За яго расьсьледаваньне возьмецца сьледчае ўпраўленьне УУС Мінаблвыканкама.

**Ларыса Насановіч (пераклад**

## Дзевяць месяцаў без Дашкевіча



15 верасьня мінулага году, пракурор выклікаў лідэра Маладога Фронту Зьмітра Дашкевіча на "пятнаццаціхвілінную" размову. З таго часу Зьміцер за кратамі.

Дзевяць месяцаў жыцьця маладога чалавека прайшлі ў нечалавечых умовах перапоўненых хворымі на сухоты й СНІД камэраў сьледчага ізалятару.

Дзевяць месяцаў паплечнікі-маладафронтаўцы дамагаюцца яго вызваленьня, пратэстуюць, выходзяць на плошчу, перадаюць перадачы, моляцца і спадзяюцца на сустрэчу.

Дзевяць месяцаў бацькі Зьміцера чуюць у свой бок, што зьяўляюцца бацькамі арыштаванага злачынцы, але не скараюцца, верацъ у нявінаватасьць свайго сына й са сьлязамі на вачох чакаюць яго дамоў.

Дзевяць месяцаў – 270 доўтіх дзён – Зьміцер Дашкевіч у турме.

# Джэм-сэшн "РОКАШ & КУДМЕНЬ" ад Салігорскага ТБМ: шчыра і па-беларуску

У вечары 22 чэрвеня ў салігорскім клюбе "ФЭСТ" адбыўся фэст-канцэрт "ЗАПАЛІ Ў САБЕ СОНЦА - 2" з удзелам беларускіх гуртоў РОКАШ і КУДМЕНЬ. Канцэрт, як звычайна бывае на Беларусі, пачаўся з "невялічкім" пяцідзесяціхвілінным спазьненьнем. Гатая акалічнасьць, напраўду, някольки ня зьменшыла станоўчае ўражаньне ад пачутага і ўбачанага.

Канцэрт распачаўся з эфэктнае тэтралізаванае імпрэзы на вершы Янкі Купалы, 125 год з дня нараджэньня якога сёлета адзначае беларускае грамадства. Адной з гэлоўных мэт, як паведамілі арганізатары дзеяньня ад Салігорскай філіі Таварыства Беларускае Мовы, была спроба зьняць зь вершаў беларускага клясыка "школьны штамп" і прадставіць творчасьць паэта зь іншага, больш сучаснага, мадэрнага боку. Трэба прызнаць, што гэтая спроба выйшла на 5+.Пасьля яшчэ аднаго танцавальнага прадстаўленьня на сцэне зьявіўся беларускамоўны фольквы гурт з палесскім ухілам КУДМЕНЬ. Гурт выдатна прэзэнтаваў беларускія народныя напевы і танцы наўпрост на танцпляцоўцы. Разам зь песьнярамі зь вялікім задавальненьем выплясвалі лявоніху ды іншыя беларускія танцы шматлікія салігорскія маладзёны.

Увогуле, КУДМЕНЬ з фолькавым рэпертуарам у клюбнай атмасфэры выглядаў вельмі шыкоўна і ўражліва, але ж пры гэтым шчыра і па-беларуску. Упэўнены, большасьць з прысутных упершыню пачула ўжывую беларускі старажытны інструмэнт вядомы з 15 стагодзьдзя пад назовам ДУДА. Без дуды, дарэчы, раней не абыходзілася не адно вясельле. Таму калі вы вырашыце адсьвяткаваць вясельле і спадзяецеся на спалучэньне традыцый і сучаснасьці, то не забудзьцеся на дудара.




Далейшае дзеяньне адбывалася пад сьцягам РОКАШу. Фольк-рокавы гурт з экспрэсіўнай вакалісткай цалкам завёў публіку. Да таго ж трэба адзначыць, што ня гледзячы на вельмі маладзевы склад гурта, тэксты песень выклікалі вельмі вялікую павагу і пачуцьцё сталасьці выканаўцаў. Асабліва, калі правесьці паралелі з сучаснасьцю. Ну а на дэсэрт нас чакаў імправізаваны джэм-сэшн ад "РОКАШ & КУДМЕНЬ".

На прыканцы арганізатары фэсту, у асобе старшыні Салігорскае філіі **"Таварыства Беларускае Мовы" (tbm-saligorsk.org) Віталя Дзінгілеўскага**, падзяквалі ўсіх удзельнікаў, гасьцей і гаспадароў клюбу за ўдзел і падтрымку і выказалі спадзеў на працяг гэткіх сустрэчаў.

P.S. Выкажу спадзяваньне на тое, што магчымасьці пачуць сапраўды **БЕЛАРУСКІХ** выканаўцаў у салігорцаў будуць часьцейшыя і інфармаваньне пра маючые адбыцца мерапыемствы будзе шырэйшым.

**Паводле saligorsk.org**

# ЧАМУ НА ФУТБОЛЕ АСЬВІСТАЛІ СТАРШЫНЮ РАЙВЫКАНКАМУ?

У суботу 23 чэрвеня на салігорскім стадыёне "Будаўнік" адбыўся першы матч першага круту Кубка Інтэртота паміж салігорскім ШАХТАРам і ерэванскім АРАРАТам. Шахтар атрымаў ганаровую перамогу зь лікам 4:1. Аднак для грамадства паказальным зьяўляецца ня толькі перамога Шахтара, але ж і выпадак які адбыўся на пярэдадні матчу.

Непасрэдна перад пачаткам гульні дыктар абвесьціў, што на стадыёне прысутнічае амбасадар Арменіі. Трыбуны абрушыліся трохтысячнымі аплядысментамі ў гонар прысутнага госьця.

Потым дыктар абвесьціў, што на матчы прысутнічае старшыня Салігорскага райвыканкаму Аляксандар Рымашэўскі. А вось тут рэакцыя салігорскіх заўзятараў была ўжо зусім іншай. Перапоўненая трохтысячная трыбуна, уся як адно цэлае, пачала сьвісьцець і рабіць ганебныя выкрыкі на адрас кіраўніка Салігоршчыны!

Здавалася б ЧАМУ?

Ён жа паабяцаў зрабіць да наступнага лета з Салігорску горад-сад. І, прынамсі, гараджане ўжо ўбачылі зьмены ў зьнешнім выглядзе сталіцы шахтароў.

Шэрыя дамы пачалі набываць новую яркую афарбоўку, назіраецца капітальны рамонт гарадзкіх дарог. Але ж трохтысячная трыбуна сьвісьць і плюецца пры адным згадваньні пра старшыню Салігорскага раёна.

Мабыць людзям не спадабаюцца штомесячныя суботнікі і адлічэньні з асабістых заробкаў у фонд райвыканкаму (падаткі цікава дзеля чаго існуюць)?



Можа ім не падабаецца, што прадпыемствы гораду вымушаны за кошт сваіх прыбыткаў (стратаў) рэмантаваць гарадзкія дамы і класьці тратуарную плітуку (у выніку чаго арганізацыі не выплочваюць сваім працоўнікам прэміяльныя)? Можа ім не падабаецца, што рынак з цэнтру гораду перанесьлі на ўскраіну дзеля будаўніцтва лёдавага палацу? Супраць будаўніцтва якога, прадчуваючу будучыя паборы, жыхары гораду пыталіся правесьці адпаведны рэфэрэндум?

Здаецца, адказ відавочны...

Напэўна, на мясцовых выбарох гэты чалавек наўрадці атрымаў бы перамогу. Але ж, як вядома, такіх кіраўнікоў у нашае "дэмакратычнае" краіне не выбіраюць людзі і прызначае асабіста прэзыдэнт.

Адпаведна і старшыні абыякава меркаваньне людзей аб яго дзейнасьці, але ж не абыякава меркаваньне першай асобы краіны, дзеля ўлагоджваньня якой і задуманны ўвесь гэты сырбор з горадам-садам.

**Алесь Міхалок**

# Лукашэнка: Дамашкевіча на вуліцу ня выкінем

Мікалай Дамашкевіч застанецца ў сыстэме кіравання краінай. Кіраўнік дзяржавы сказаў, што ў свой час Мікалай Дамашкевіч быў незаменны. Ён амаль дзевяць гадоў кіраваў вобласьцю, адзначыў прэзыдэнт. Паводле слоў Лукашэнкі, сёньня час патрабуе новых кіраўнікоў. "У тапташьні Менскай вобласьці на месцы немалую ролі згулялі заганы ў стылі працы Мікалая Дамашкевіча". Пры гэтым А. Лукашэнка запэўніў, што былы кіраўнік вобласьці "ня будзе выкінуты на вуліцу". "Калі нехта думае, што эра Дамашкевіча закацілася, то вы памыляецеся. Такімі кадрамі не раскідаюцца".

**Паводле Нашай Нівы**

## Самыя дарагія прадукты ў траўні былі ў Менску, Салігорску і Бабруйску

Па дадзеных статыстыкі, сярэдні кошт па рэспубліцы на сьвініну ў траўні бягучага года складаў 7712 рублёў, што на 128 даражэй, чым у красавіку. Самыя нізкія кошты на яе былі ў Верхнядзвінске, Ваўкавыску, Шчучыне, Клімавічах і Чавусах - 5360-7090 рублёў. У параўнаньні з красавіком верхняя мяжа коштаў павялічыўся на 100 рублёў. Самая дарагая сьвініна ў траўні бягучага года была ў Беразіно, Бабруйску, Горках, дзе яе кошт склаў 8250-9500 за 1 кг, што на 160 рублёў даражэй, чым у папярэднім месяцы.

У сувязі з масавым паступленьнем у продаж капусты ўраджая цяперашняга года кошты на яе вырасьлі ў 2,1 разы. Так, сярэдні кошт па рэспубліцы на сьвежую капусту ў траўні бягучага года склаў 2028 рублёў, або на 1151 даражэй, чым у красавіку. Самыя нізкія кошты на яе былі ў Оршы, Рагачове, Барысаве, Маладзечна, Беразіно і складалі 1090-1360 рублёў, што на 540-820 даражэй. Самыя высокія кошты на капусту ў траўні былі ў Верхнедзвінске, Лідзе, Ашмянах і Горках. Тут яе прадавалі па 2400-2600 рублёў за 1 кг, што на 1350-1460 даражэй.

Сярэдні кошт па рэспубліцы на лук рэпчаты ў траўні складаў 1810 рублёў, што на 422 даражэй, чым у красавіку. Самы танны лук быў у Верхнедзвінске, Лідзе, Ашмянах, Беразіно, Клімавічах, дзе яго можна было купіць па 1030-1280 рублёў за 1 кг, што на 120 даражэй, чым у красавіку. Найболей высокія кошты на лук у траўні былі ў Сьветлагорску, Салігорску, Слупках, Магілёве, Горках і Чавусах - па 2100-2470 рублёў (на 680-820 даражэй).

Кошт бульбы ў сярэднім па рэспубліцы ў траўні складаў 766 рублёў, або на 11 рублёў таньней, чым у красавіку. Самыя нізкія кошты на яе былі ў Пінску, Слупках, Бабруйску, Горках, Клімавічах, дзе яе прадавалі па 460-550 рублёў, або на 30 таньней, чым у красавіку. Найболей высокія кошты на яго захоўваліся па-ранейшаму ў Оршы, Менску, Барысаве. Тут "другі хлеб" прадаваўся па коште 830-930 за 1 кг.

Сярэдні кошт на бурак у траўні па рэспубліцы складаў 766 рублёў і вагаўся ад 320-550 у Слупках, Беразіно, Горках, Клімавічах да 820-940 у Пінску, Віцебску, Оршы, Мазыры, Менску. Бурак у траўні стаў таньней на 36 рублёў. Верхнія межы коштаў узрасьлі на 30-80 рублёў у параўнаньні з красавіком.

Нагадаем, параўнальны аналіз коштаў штомесяц праводзіцца на прадпрыемствах гандлю ўсіх форм уласнасьці, афіцыйных і неафіцыйных рынках у 31 горадзе рэспублікі. Самыя нізкія кошты на асноўныя прадукты ў траўні былі ў Пінску, Лідзе, Верхнядвінске, Клімавічах, Чавусах, Рагачове, Маладзечна, Слупках, а самыя высокія - у Менску, Салігорску, Бабруйску і Беразіно.

**Паводле akavita.by**

## Ці дапаможа КДБ кампутар Івана

Роўна а 9-й раніцы ў кватэру сямі Шыла пазванілі. Апынулася, гэта супрацоўнікі салігорскага КДБ. Іх цікавіў 16-гадовы Іван. Дакладней, яго кампутар.

– *Шукаюць доказы для майго абвінавачваньня,* – гаворыць Іван, папулярны ў Салігорску лідэр вальнадумнай моладзі. Нядаўна на яго завялі крымінальную справу за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт". КДБ ужо праводзіў самы дбайны ператрус у кватэры.

– *Тады яны фактычна нічога не знайшлі,* – распавядае юнак. – *Некалькі бюлетэняў, часопісаў канфіскавалі. Былі вельмі расчараваныя. Зьмесціва кампутара ім таксама мала што дасьць.*

У траўні праз допыты КДБ прайшлі сем непаўналетніх сяброў Івана. Дабіліся ад іх, судзячы па наяўнай інфармацыі, мала істотнага, а крымінальная справа, што завецца, не чакае.

– *Мы нічога дрэннага ня робім,* – працягвае Іван. – *Проста жадаем жыць у цывілізаванай вольнай дзяржаве, па канстытуцыі і міжнароднаму праву.*



Калі б міліцыя і КДБ ганяліся так за сапраўднымі злачынцамі, як перасьледваюць нас, то парадку ў краіне было б нашмат больш.

Узровень раскрывальнасьці крымінальных злачынстваў сёлета ў горадзе складае ўсяго 31%. Мабыць, бандытаў і жулікаў лавіць няма калі. Напярэдадні візыту гэбэшнікаў маладыя людзі разьвешвалі ў горадзе расьцяжкі "Свабоду Маладому фронту". Міліцыя сабралася, нібы на ўзброены напад! Затрымаць пасьпелі толькі аднаго актывіста руху "За Свабоду" Паўла Батуева. Расьцяжкі, вядома, зьнялі.

**Ларыса Насановіч (пераклад saligorsk.org)**

## На Салігорскім вадасховішчы забаронена купаньне

Па дадзеных Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялёгіі і грамадзкага здароўя, забарона на купаньне ўведзена ўжо на 37 вадаёмах Беларусі.

Жыхарам Менскай вобласьці забаронена купацца ў рацэ Цітаўка Пухавіцкага раёна, рацэ Случ Слуцкага раёна, у Войкаўскім вадасховішчы Плешчаніц Лагойскага раёна, у Валожынскім і Салігорскам вадасховішчах,

у рэках Ілія і Уша Маладзечанскага раёна, вадасховішчы Ляўкі, а таксама ў сажалках пасёлка Новы, вёсак Новыя Фалічы, Пастовічы і Сінеяова Старадароскага раёна.

Мінчукам па-ранейшаму нельга купацца ў Заслаўскім вадасховішчы, Камсамольскім возеры, на вадасховішчах Драздны і Цна.

Нагадаем, на мінулым тыдні забарона на купаньне была уведзена на 24 вадаёмах Беларусі.

Асноўным чыньнікам зьяўляецца перавышэньне зьместа ў вадзе лактозастаноўчых кішачных палачак, што можа выклікаць кішачныя засмучэньні ў купаючыхся.

У купальны сэзон бактэрыялягічныя дасьледаваньні вады з вадаёмаў у месцах адпачынку выраблаюцца ў сярэднім раз у тыдзень.

Пастанова аб забароне на купаньне выносіцца органамі Дзяржсаннагляду пры атрыманьні двух нездавальняльных аналізаў вады з адной кропкі.

**БЕЛАПАН**

## Кітайская пастка на калійным рынку

На сусьветным рынку калійных угнаеньняў назіраецца заўважны рост. У зьвязку з гэтым, пераход Беларусі на пяцігадовы рамкавы кантракт паставак у Кітай экспэрты лічаць нелягічным. Беларуская калійная кампанія ўклала выгаднае пагадненьне на пастаўку калійных угнаеньняў у Індыю. Аб'ём паставак сёлета амаль удвая перавышае мінулагодні паказчыкі: 238 тыс.т. супраць 106 тыс.т. БКК усьлед за канадзкай кампаніяй Potash-Corp узьняла кошт на хлорысты калій да 50$/т.

Дамова ўкладзеная з буйным індыйскім імпартэрам — кампаніяй IPL, якая забясьпечвае калійнымі ўгнаеньнямі да 80% індыйскага рынку.

Сёлета назіраецца небывалы рост калійнага рынку. Чакаецца рост коштаў на калійныя ўгнаеньні да 270$/т. Экспэрты тлумачаць такі ажыятаж высокім попытам на ўгнаеньні для прадукцыі, што выкарыстоўваецца для вырабу біяпаліва.



## Жаночы алькагалізм набірае моц

У Салігорскім наркалягічным дыспансэры на ўліку знаходзіцца 436 жанчын-алькагалічак. Гэта на 24 больш, чым у 2006 годзе.
З пастаўленых на ўлік 163 – вясковыя жыхаркі. 278 у веку 20-39 гадоў.
На пытаньне: "Чаму п'яцё?", адказваюць адно: ад безвыходнасьці. Зрэшты, апошняя паўстала ва ўсіх па-рознаму: то ад недахопу грошай, то ад адсутнасьці ўласнага жыльля, а хтосьці проста нацярпеўся ад пітушчага мужа.
На ўліку ўсе апынуліся ў прынцыпе аднолькава. Стала дрэнна ад прынятага на грудзі, а далей як па сцэнарыі: "хуткая", прыёмны пакой, лякарня. Каля паловы некалі былі мамамі і жонкамі. Ад шматлікіх зараз, праўда, мужыкі сыйшлі, мацярынства іх пазбавілі.
Да прыкладу, 23-гадовая Аліна. Замуж выйшла адносна рана, у 20 гадоў. Нарадзіла сына Андруся. З мужам не заладзілася. Сталыя п'янкі, скандалы, рукапрыкладства. Хоць, хадзілі слыхі, правакавала яго сама. Пасьля разводу Аліна адчула волю (бацькі спачатку дачку разумелі, дапамагалі ва ўсім) і пусьцілася ва ўсе цяжкія. Дома сталі зьяўляцца яе залётнікі, усе як на падбор – пітушчыя. Нярэдка яны прыходзілі з сябрамі. Скончылася тым, што з кватэры яе выгналі.
Яна перайшла жыць да маці і бацькі ў аднапакаёвую кватэру. А тыя, каб не мяшаць дочкі з унукам, да бабулі. Далей – горш. У Аліны зьявіліся сябры-наркаманы. Стала прымаць наркотыкі і яна. Зельле варылася наўпрост, што завецца, пад носам у дзіцяці. Калі аб гэтым даведаліся бацькі і былы муж, яе адправілі сілком лячыцца ў мясцовы наркадыспансэр. Неўзабаве і бацькоўскіх правоў пазбавілі.
Зараз яна знайшла сабе новага кавалера. Праўда, ані ня лепш ранейшых. Хлопец сам пітушчы, з такой жа сямьі. Часам пад хмелем яна плача, гаруе аб страце сына, але ўсё часьцей, на пытаньне: "Не шкадуеш, што сына адабралі?", адказвае: "Новага ражу, калі трэба будзе".
Асуджаць такіх мы не мае права, роўна як і апраўдваць. Але ўсё гэта наводзіць на свайго роду разважаньні: аб якім узьняцьці дэмаграфіі можа весьці прамову, калі вялікі адсотак жанчын дзіцянараджальнага веку любяць выпіць?
Сёлета 235 жанчын знаходзяцца на ўліку з дыягназам "Ужываньне алькаголю са шкоднымі наступствамі" (бытавое п'янства). Трэцяя частка зь іх – непаўналетнія дзяўчынкі.
**Дыяна Жураўская (пераклад з расейскай saligorsk.org)**

## «Чорны спіс» чыноўнікаў пашыраецца

Кіраўніцтва аргкамітэту партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" прапаноўвае ўключыць у спіс невыязных у Еўрасаюз беларускіх чыноўнікаў, адказных за парушэнні права на свабоду сумлення.
Прапановы былі агучаныя на нядаўняй сустрэчы ў Брусэлі сустаршынь "Беларускай хрысціянскай дэмакратыі" Аляксея Шэіна і Віталя Рымашэўскага з прадстаўнікамі інстытутаў Еўрасаюзу, дыпламатычных місій еўрапейскіх краін, сябрамі праваабарончых арганізацый, паведамляе "Радыё Рацыя".
Як паведаміў у інтэрв'ю Рацыі сустаршыня аргкамітэту "БХД" Аляксей Шэін, спіс невыязных у ЕС мусіць быць дапоўнены наступнымі чыноўнікамі: упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце міністраў Леанід Гуляка, ягоны намеснік Уладзімір Ламека, начальнік аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Мінгарвыканкаму Ала Рабіцава.
Паводле Аляксея Шэіна, гэтыя чыноўнікі неаднаразова парушалі правы вернікаў розных канфесій у Беларусі: адмаўлялі ў рэгістрацыі рэлігійных абшчын у краіне, ліквідавалі пратэстанцкія цэрквы, ажыццяўлялі ціск на цэрквы праз праверкі, а таксама друкаваныя СМІ і тэлебачанне, распаўсюджваючы ілжывую інфармацыю.
Акрамя гэтага, ціск з боку ўладаў зафіксаваны і на прадстаўнікоў рыма-каталіцкай і праваслаўнай канфесій. Шэін таксама нагадаў пра дэпартацыю з пачатку года больш 20 святароў-іншаземцаў.
Як заўважыў Аляксей Шэін, падчас візіту, які завяршыўся напрыканцы мінулага тыдня, беларускія палітыкі на сустрэчах з прадстаўнікамі ЕС настойвалі на больш пільнай увазе да парушэнняў права на свабоду сумлення ў Беларусі.
"Калі Захад націснуў на афіцыйны Мінск у пытаннях, напрыклад, палітвязняў, то мы ўбачылі хоць нейкія дзеянні па паляпшэнні сітуацыі. Калі парушэнні права на свабоду сумлення не абмяркоўваліся паміж ЕС і беларускім урадам, то нічога ў гэтай сферы ў Беларусі і не адбывалася да лепшага. Наадварот, за апошні час ціск дзяржавы на вернікаў узрос", – дадаў палітык.
**Паводле Хартыі 97**

## Малютак кідаюць шматлікія. Адумваюцца адзінкі

У дзіцячай лякарні Салігорска на апецы чатыры «адмоўніка». Яшчэ пяць – так званыя «пакінутыя» дзеці. Іх альбо кінулі на вуліцы, альбо забралі зь сямьі, дзе жыцьцю малога пагражала небясьпека. Самая вялікая колькасьць «адмоўнікаў» у нас была ў 2004 годзе, – гаворыць галоўны доктар Л. Віннікава. – Восем чалавек. Тады мы сутыкнуліся з шакавальнай сытуацыяй – дзьве маладыя сямьі, ужо выхоўваючыя па адным дзіцяці, адмовіліся ад сваіх другіх народжаных здаровых дзяцей.
Малюткі, кінутыя сваімі мамамі-"зязюлямі", першыя месяцы жыцьця знаходзяцца ў аддзяленьні дзіцячай лякарні. Сюды яны трапляюць наўпрост з радзільных палат.
Перш чым апынуцца ў дзіцячым доме дзіця павінна мінуць поўнае мэдыцынскае абсьледаваньне. Доўжыцца яно ад некалькіх тыдняў да месяца, калі няма сур'ёзных захворваньняў. Часьцяком знаходжаньне малых у лякарні зацягваецца на год і больш. Не заўсёды гэта зьвязана з неабходнасьцю атрыманьня мэдыцынскай дапамогі. Проста ў шматлікіх выпадках лякарня аказваецца найболей зручным часовым выйсьцем.Да некаторых дзетак прыходзяць родныя мамы. Зь імі займаюцца сацыяльныя органы. Ва ўсіх ёсьць шанец вярнуць сваю малютку. Некаторыя ім ужо скарысталіся. Так, у чэрвені гэтага года тры дзіцяці вярнуліся ў свае семьі.
Малыя месяцамі не бываюць на вуліцы, і сонца бачаць скрозь бальнічныя вокны. Мэдыцынскія працаўнікі як могуць заляцаюцца за дзецьмі – кормяць, пераапранаюць, пры неабходнасьці даюць лекі. На большае бракуе сіл ды часу. Адчувальную дапамогу аказваюць жыхары горада. Яны прыносяць «адмоўнікам» адзежу, цацкі, памперсы – хто што можа. Акрамя таго, любы жадаючы можа ўзяць дзіця на шпацыр. Такіх у горадзе таксама нямала. Але вось забраць іх назаўжды ў сваю сямью адважваюцца адзінкі. Хоць выбар вялікі: у Беларусі на сёньняшні момант каля 30 000 дзяцей-сірот.

## Дык Падпішыся!



Калі вы жадаеце рэгулярна атрымліваць нашу газэту проста паведаміце свой адрас па тэлефонах :
**8 (029) 370-02-04 , 8 (029) 370-02-05 , 8 (0174) 2-61-371**
праз e-mail: **salihorsk@gmail.com**

Свабодны Салігорск
незалежная газэта Салігорска
Сувязь: 370-02-04 , 370-02-05 , salihorsk@gmail.com , http://gazeta.saligorsk.org
Газэта "Свабодны Салігорск". Адказнасьць за змешчаныя матэр'ялы нясуць аўтары.
Галоўны рэдактар : Драбудзька М.М. , Шэф-рэдактар : Рымашэвскій А.Б., Сакратар рэдакцыі : Захарчук А.У. , Галоўны прыбіральшчык : Лімонаў В.К. Надрукавана на асабістым абсталяваньні Пятрашка К.В. ; Судан , г.Дангола-Эль-Кедзіма , вул. Сацыялістычная 17.

## Футбольны клюб «Інтэр» выклікаў на прагляд нападаючага «Шахтара»

Галоўны трэнер бакінскага футбольнага клюбу «Інтэр» Валянцін Хадукін падшуквае годнага форварда-замежніка. Як паведамляе Day.Az, на прагляд у каманду ўжо выкліканы беларускі нападаючы Павел Бяганскі, выступаючы зараз у «Шахтары» з горада Салігорск.